

*"Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу" (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№17** (99) лістапад 2014

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

**В Беларуси цены растут в 2 раза быстрее, чем в России и Казахстане.** В сентябре 2014 года по сравнению с августом цены на товары и услуги в странах Таможенного союза и ЕЭП выросли на 0,7%. Самый высокий уровень инфляции традиционно зафиксирован в Беларуси – 1,2%. За год (май 2014 года к маю 2013 года) цены и тарифы в ТС и ЕЭП выросли на 8,6%. Россия продемонстрировала 8-процентный рост цен. В Казахстане жизнь подорожала на 7,6%. В Беларуси инфляция разогналась до 20,1%: услуги увеличились в цене на 34,5%, продовольствие – на 22,9%, непродовольственные товары – на 8,3%.

**Под пристальным вниманием** правоохранительных органов оказались отдельные специалисты ОАО "Бобруйский мясокомбинат". Как выяснилось, являясь должником перед бюджетом по полученным ссудам и отдельными сельхозпроизводителями за сданную продукцию, мясокомбинат умудрился предоставить "кредиты" зарубежным партнерам на сумму более **180 млн. российских рублей.** При этом мясокомбинатом неоднократно превышались сроки завершения внешнеторговых операций.

Кроме того, при возведении мясожирового цеха стоимость выполненных работ завышена более чем на **600 млн. руб.** За допущенные нарушения 4 человека оштрафованы.

## Карупцыя: мясцовыя асаблівасці

У апошні час барацьба з карупцыяй ў Беларусі разгарнулась аж на два франты: на рэспубліканскім узроўні, дзе бушуюць жарсці не жартоўных памераў, і мясцовым з рознымі хітрыкамі ў адносінах да зладзюганаў і іншых карупцыянераў, якіх і трэба садзіць і вельмі шкада, бо свае ж, сукіны дзеці. Але ж і змагацца з карупцыяй трэба, бо Прэзыдэнт сказаў, што карупцыйныя працэсы здольны разбурыць любую, самую дасканалую сістэму – сацыяльную і эканамічную і з'яўляюцца падставай для нарастання грамадскага пратэсту, чаго гэта ўлада вельмі баіцца на ўсіх узроўнях.

Трэнд жа карупцыйных злачынстваў у Беларусі, пачынаючы з 1989 г., калі было ўзбуджана толькі 112 спраў па фактах хабарніцтва, мае ўстойлівы характар штогадовага падвышэння. Ды толькі маштабы карупцыі зараз не тыя, нават у параўнанні з 1994 г. (500 спраў), калі да ўлады на хвалі барацьбы якраз з карумпіраванасцю ўлады, і прыйшоў А.Лукашэнка. Праз дваццаць гадоў, у 2013 г., беларускія праваахоўнікі выявілі ўжо 1319 фактаў хабарніцтва, ці ў 2,6 разоў болей, чым на зары панавання "вертыкалі". За гэты прамежак часу красці "вертыкальшчыкі" навучыліся не горш за А.І.Карэйку, вядомага персанажа твораў Ільфа і Пятрова ("Залатое цяля"), а можа нават і пераўзышлі яго. Больш таго, чыноўнікі з цягам часу вынаходзяць шляхі прысабечвання дзяржаўных грошай у такіх напрамках, пра якія шараговы беларус ніколі не здагадаецца.

У Магілёве былы кіраўнік адукацыі гарвыканкама Я.Дуплеўскі пры саўдзеле са службовымі асобамі сярэдняй школы на працягу чатырох гадоў афармляўся па сумяшчальнасці настаўнікам факультатыўных заняткаў на ўмовах працоўнага дагавора, але фактычна заняткі не праводзіў. Прычыніў гарадскому бюджэту страты на 22 млн. рублёў, што цягне на 7 гадоў турмы.

Некалькі іншыя маштабы крадзяжу ў прадпрымальнікаў. Толькі што завершана справа супраць дырэктара магілёўскага ТАА "Будінвест", які фактычна выкарыстаў мэтавы аванс на будаўніцтва жылога дома ў памеры 1,7 млрд. руб., пералічанага на рахунак яго прадпрыемства КУП "УКБ Шклоўскага райвыканкама, на свае патрэбы.

Былы сенатар-прадпрымальнік дырэктар магілёўскага ЗАТ "Палітэкс" В.Кастагораў абвінавачваецца ў недаплаце падаткаў на суму аж 150 тыс. даляраў ЗША. Больш таго, ім таксама цікавяцца расійскія праваахоўнікі, бо ён яшчэ аказваецца і грамадзянін Расіі і мае кватэру за паўтара мільёна даляраў у самой Маскве.

Крымінальныя справы супраць наменнікаў Магілёўскага і Бялынічскага райвыканкамаў (Арцёмчыка і Ерашэнкі), генеральных дырэктараў "Магілёўдрэва", "Фандока" і "Крычаўцэменташыфера" (Усава, Майкава і Скоцкага), цэлай групоўкі раскрадальнікаў сродкаў Крычаўскага райспажыўсаюза гавораць аб нейкай эпідэміі крадзяжоў сярод кіраўнікой "вертыкалі" і дзяржпрадпрыемстваў. У Магілёўскай вобласці таксама ўзбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах да дэпутатаў мясцовых Саветаў 26-га і 27-га сазываў. Пры гэтым складваецца ўражанне непазбежнасці пакарання за ўчыненне злачынстваў, што працуе на аўтарытэт улады і праваахоўных органаў, маўляў, недатыкальных у краіне няма.

Ды ці ўсё так добра ў барацьбе з карупцыяй на мясцовым узроўні, паспрабуем разабрацца. Усяго за 8 месяцаў гэтага года ў Магілёўскай вобласці ўзбуджана 146 карупцыйных спраў, арыштавана маёмасці на 2 мільярды рублёў – неблагі вынік на рэспубліканскім узроўні. У той жа час, толькі ў Шклоўскім раёне за першае паўгоддзе матэрыяльныя страты па карупцыйных справах склалі 2,1 млрд. руб., з якіх дабраахвотна вернута дзяржаве толькі 35,6 млн. руб. (1,7%), накладзены арышт на маёмасць абвінавачваных на 380 млн. руб. (18,1%). Ці ж гэта паказчыкі эфектыўнасці працы ў барацьбе з крыміналам?

Па-ранейшаму, першае месца па карумпаванасці ў вобласці займае сістэма аховы здароўя, на другім ідзе прамысловасць, далей з вялікім адрывам ідуць сельская гаспадарка, будаўніцтва і гандаль. Але ж, калі урачы бяруць хабар на ўзроўні 20-30 даляраў, а ў турму ідуць максімум за якіясці там 300-500 даляраў ЗША, то у будаўнікоў і гандляроў гэтыя сумы выклікаюць ці не ўсмешку: у круглянскай ПМК-266 адзін з кіраўнікоў прысабечыў 206 млн. руб.,у Крычаве гандляры скралі мільярд руб., у Бабруйску пры правядзенні дзяржаўных закупак мясцовая службовая асоба стала багацей на 100 млн. руб. Дарэчы, мы пакуль не чулі аб судовых працэсах над кіраўнікамі сістэмы аховы здароўя і адукацыі за велічэзныя адкаты, якія бяруцца за прыдбанне медыцынскага і навучальнага абсталявання і правядзенне капітальнага рамонта будынкаў.

Чаму ж крадуць чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў ва ўмовах нарошчвання напалу барацьбы з карупцыяй? Міністр унутраных спраў І.Шуневіч лічыць, што ўся справа ва ўмовах, у якіх зараджаецца карупцыя. І дзе ж яна зараджаецца? Возьмем будаўніцтва – у 2013 г. КДК Магілёўскай вобласці прадухіліў завышэнне кошту будаўніцтва 101 аб'екта, фінансуемага з бюджэта на агульную суму 16,7 млрд. руб. Яшчэ 20,5 млрд. руб. "знайшлі" на будаўніцтве аб'ектаў дзяржпраграм. Не лепш справы ў ЖКГ вобласці: толькі прадухіленне аднясення на выдаткі звышнарматыўных страт у цеплавых сетках зберагло 3,7 млрд. руб. У АПК вобласці на закладцы пладоваягадных насаджэнняў неэфектыўна выкарыстаны 42 млрд. бюджэтных рублёў.

Галоўная ўмова для карупцыі, якая "аб'ядноўвае" розныя галіны эканомікі, адна – гэта дзяржаўная маёмасць, якую абслугоўваюць розныя кіруючыя ўстановы і незлічоныя безадказныя асобы. Для гэтай звязкі лішнімі з'яўляюцца дэмакратыя, незалежныя суды, недзяржаўныя СМІ і грамадскія аб'яднанні.

Зараз Беларусі патрэбны рэальна дзеючыя законы па барацьбе з карупцыяй. А то, што ж гэта атрымліваецца – сёння чыноўнік пры пасадзе, раскрадае народную маёмасць, затрымліваецца праваахоўнікамі, піша прашэнне аб памілаванні Прэзыдэнту, а потым атрымлівае неблагую пенсію. Характэрная асаблівасць для Беларусі – раскрадальнікі дзяржаўных грошай шукаюць паратунку ў галоўнага барацьбіта з карупцыяй! Фактычна ж створаны ўмовы для пазбягання злаўмыснікамі адказнасці за карупцыйныя ўчынкі.

Другая асабліваць мясцовай практыкі барацьбы з карупцыяй – недавер гэтым самым барацьбітам з боку рэспубліканскіх улад. Напрыклад, у Шклове "мерапрыемства" па затрыманні намесніка старшыні райвыканкама праводзіў рэспубліканскі следчы камітэт. Дарэчы, справу да гэтага часу вядзе Мінск.

Яшчэ адна асаблівасць мясцовай карупцыі – кругавая парука мясцовых чыноўнікаў. Валаводзяць, круцяць справы гадамі, ды яшчэ прэзыдэнта крайнім зробяць. Вось калі справа тычыцца праяўлення самастойнасці грамадзянамі, ці, не дай Бог, пападзе грамадзянін у лік апазіцыянераў –о, тады справы вырашаюцца хутка і вельмі прынцыпова.

Таксама асаблівасцю мясцовых карупцыйных спраў з'яўляецца вялікая разбежка ў памерах крадзяжоў. Калі чыноўнік "бярэ" мільярдамі (хабар, адкаты, "кватэрнае пытанне", падарункі), то шараговы зладзюган, ці хабарнік здавальняецца невялічкімі сумамі. Смешна, напрыклад, чытаць гнеўныя артыкулы аб хабары ўрачоў ў 20 даляраў за выдачу лістка непрацаздольнасці, хаця якраз хабарніцтвам шараговых урачоў, працуючых у бальніцах, вельмі занепакоены беларусы. Тым не менш, выстаўляючы на паказ вынікі барацьбы з нячэснымі ўрачамі ды выкладчыкамі ВНУ, сапраўдныя маштабы карупцыі мясцовыя ўлады стараюцца не афішыраваць – парушаецца вера

ў святасць “вертыкальшчыкаў”. Дарэчы, беларускі народ не вельмі і верыць у альтруізм і іншыя высакародныя намеры айчынных рупліўцаў-“прыкарытнікаў”.

Наступная асаблівасць – кругазварот былых асуджаных у “вертыкалі”. Па-добраму, дык з беларускіх уладных структур трэба вычышчаць уплывовых асоб с дзелавымі інтэрэсамі, патрабуючых злоужывання паўнамоцтвамі. Ды дзе там: не паспелі ў Шклове схлынуць жарсці па затрыманню намесніка старшыні райвыканкама за злоўжыванні на пасадзе, як зноў інфармацыйны бум – на яго месца прызначылі раней асуджанага былога старшыню райсавета М.Паўловіча (!). І дзе тут роля спадара Г.Лаўранкова, галоўнага прэзыдэнцкага кантралёра па Магілёўскай вобласці, бо кадравыя перастаноўкі ўваходзяць у кола яго абавязкаў. Ці ўлада ўжо зусім меру згубіла ў гульнях з карупцыйнымі складнікамі? А можа гэтай уладзе некалі займацца карупцыяй і яна займаецца эканомікай? Ды не, бо зусім нядаўна той жа спадар Лаўранкоў на паседжанні аблвыканкама прызнаў, што эканамічная сітуацыя ў Магілёўскім рэгіёне пагаршаецца і неабходны аператыўныя меры па яе выпраўленню.

Іншы прыклад: нядаўна Беларусь наведала прадстаўніца Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч. Пакуль Дуня распіналась перад міністам замежных спраў У.Макеем і міністрам інфармацыі Л.Ананіч аб нейкім прагрэсе ў Беларусі ў справе затрыманняў журналістаў, у Магілеве рабіліператрус у кватэры вядомага журналіста А.Буракова. Не, не пасадзілі пакуль, але ўламілі добры штраф за тое, што калі некалі гаварыў праўду пра гэтую ўладу за мяжу. Як гаворыцца, адчуйце розніцу паміж падзеямі. Адзін змагаецца за справядлівасць і караецца, другі, былы асуджаны, мяняе ў прынцыпе будучага асуджанага ва ўладнай структуры. І гэта не цырк на дроце – гэта рэчаіснасць, ад якой хутка будзе плакаць уся Беларусь.

Дарэчы, у Бялынічах 14 жніўня адбыўся дзень рэдактара для кіраўнікоў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі вобласці. Прысутныя “акулы пяра” абмеркавалі сучасныя падыходы ў развіцці мясцовых СМІ, наведалі мадэрнізаваны малочна-таварны комплекс, дамовілісь пісаць пра набалелае. Прайшло 2 месяцы – ніводнага матэрыяла ў раённых газетах аб ходзе барацьбы з карупцыяй па сваёй ініцыятыве мясцовыя журналісты так і не нарадзілі, крытычных матэрыялаў пра стан сельскай гаспадаркі мы не ўбачылі, пра набалелае чамусьці не напісалі.

Рыба гніе з галавы…Не, я зараз не пра мінскіх кіраўнікоў, бо тыя ў большасці недасягальны для праваахоўнікаў. Мова пойдзе пра раённую “галаву”, якая ні за што карупцыйнае не адказвае, бо паперы падпісваюць падначаленыя, але пад чуткім кіраўніцтвам мясцовай “вершаліны” улады. Вядома, што буйныя інвестары сустракаюцца у першую чаргу са старшынёй райвыканкама, прыёмку аб’ектаў робіць таксама ён, лагічна, што і ўсе прыемныя наступствы ад плённай супрацы з атрымальнікамі бонусаў выпадаюць таксама на яго долю. Карацей, у раёне больш усіх красці павінен “галава”, а ў ніжэйшых па рангу падначаленых і “прыбыткі” суадносныя. Але чамусці старшынь райвыканкамаў у нашай вобласці даўно ўжо не затрымлівалі за хабар і ці ёсць надзея, навогул, што мясцовыя праваахоўнікі замахнуцца ў сваёй барацьбе з карупцыяй на раённую вяршаліну злашчаснай праблемы? Мабыць, не, бо гэту “вершаліну” прызначыў на “кармленне” сам прэзыдэнт і распісвацца ў памылковым дзеянні “вертыкалі” у дзяржаўнай справе не да твару. Ды і ці не ведалі адпаведныя структуры пра свавольствы “вяршаліны” на ранейшым месцы працы? Ведалі, але нікому не сказалі. Вось так і перакачавала на шклоўскую зямлю заганная практыка падстаўляць сваіх падначаленых у карупцыйных справах. Прэзыдэнту не пашкодзіла б рассекчы шклоўскі карупцыйны вузел і адправіць галоўнага махляра за краты, бо“шасцёркі”, якія трапілі на лаву падсудных ды хуценька вярнулісь да дому, толькі азлабляюць мясцовае насельніцтва.

Але найперш патрабуюцца змены на ўзроўні дзяржавы – без дэмакратыі гідру карупцыі не задушыць, а з тым і не паднясць на больш высокі ўзровень дабрабыт беларусаў. Як прыклад: рост ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупніцкай здольнасці) ў нашай дэмакратычнай суседкі Літвы вырас з 12 968 дал. ЗША у 2004 г. да 23 399 дал. ЗША у 2012 г., у яшчэ адной краіне Еўразвязу Польшчы – з 13 009 да 22 162, а ў Беларусі – з 7 589 да 15 592. Пры гэтым, Літва і Польшча не з’яўляюцца часткай еўразоны, так што ў іх яшчэ большыя перспектывы развіцця. А розніца паміж краінамі-суседкамі толькі ў розных адносінах да дэмакратыі. Паказальна, што Беларусь у свеце займае 123 месца па ўзроўню карумпаванасці, на дзесяткі месцаў “апярдзіўшы” Літву і Польшчу. Адзначым, што ў 2002 годзе Беларусь знаходзілась на 36 месцы.

Возьмем другую суседку, перад якой чыноўнікі на цырлах ходзяць ужо 20 гадоў, Расію. Найбольшы

рост у Расіі фіксуецца ці не сярод алігархаў, але, колькасць мільярдэраў так і не перарасла ў якасць эканомікі. Найвялікшае дасягненне Расіі зафіксавана яшчэ на мяжы 1900-х гадоў, калі яна перагнала Захад. Але тады былі для гэтага перадумовы: спрыяльны для бізнеса інвестыцыйны і падатковы рэжым, незалежны суд (адносна, вядома), абарона праў маёмасці, ды і з палітычнымі свабодамі было лепей, чым зараз. Затое зараз Расія ніжэй за Беларусь у рэйтынгу карупцыйнасці на 4 месцы.

Пры чым дэмакратыя да эканомікі? Прафесар цэнтра палітычных даследаванняў Мічыганскага ўніверсітэта Рональд Інглхарт, які займаецца маніторынгам амаль ста краін, упэўнены, што толькі прыярытэт закона стымулюе мадэрнізацыю, толькі ў дэмакратычнай краіне гарантавана абарона праў уласніка і інвестара. Прымерце гэта да беларускай рэчаіснасці.

Ёсць пытанні і ў другім рэчышчы – чаго так чапляюцца чыноўнікі за дзяржмаёмасць? Адказ на паверхні – пакуль будзе дзяржмаёмасць, будзе і карупцыя. Але не ўсё так проста на Беларусі. Інсайдары сістэмы дзяржкіравання ўпэўнены, што ўсё ў Беларусі даўно падзелена. Пры тым, гэта зроблена акуратней, разумней і з большай надзейнасцю прававой аховы для рэальных бенефіцыяраў, чым, напрыклад, у Расіі. Вось чаму цяперашняй ўладзе патрэбны свае людзі на ключавых пасадах, незалежна ад узроўню сумлення ці прафесійных якасцяў.

У Беларусі казначэйская сістэма выканання бюджэта па даходах і выдатках (упраўленне дзяржаўнага казначэйства ўвайшло ў склад Галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці), якая павінна выключаць немэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў. Але ж у апошнія гады ў Шклоўскім раёне бум на крадзяжы якраз бюджэтных сродкаў – сума толькі выяўленых фактаў вымяраецца 60 млрд. рублямі.

У мінулым годзе і ў першым паўгоддзі 2014 года кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне вярнула дзяржаве 12 млрд. рублёў. Зараз праз казначэйскую сістэму ў Магілёўскай вобласці фінансуецца 2 444 арганізацыі і ўстановы, ёй кантралюецца звыш 85 тысяч дагаворных абавязацельств атрымальнікаў бюджэтных сродкаў. Пры ўсёй звышнапружанасці працы кантралёраў паспрабуйце купіць аловак без дазволу – не атрымаецца, не прапусцяць. Але як жа тады было дазволена сродкі на суму ў 4,2 мільёна еўра на пакупку нецеляў праз Шклоўскае ўпраўленне сельскай гаспадаркі запусціць праз пасрэднікаў, дзе тыя грошы і сканалі? Не ўсё чэсна, выходзіць, і ў гэтай сістэме. Ды каб жа гэта быў адзіны выпадак. Паволі ў Шклове забываюцца мінулагодняя карупцыйныя выкрунтасы – пазбег пакарання чарговы свавольнік с жылкамунгасу, які прысабечыў амаль паўмільярда рублёў, так і не дакапаліся, куды знікла станцыя сартыроўкі бытавых адыходаў, на якую з абласнога бюджэту яшчэ ў 2005 годзе патрацілі 40 млн. рублёў. Дарэчы, у сістэме ЖКГ РБ неправамерна патрацілі ў мінулым гаду 1 трыльён рублёў – а гэта дзесятая частка кошту ўсіх паслуг ЖКГ. Карацей, дзе ні капні, усюды пагаспадарыла касматая рука чыноўніка.

Усё часцей побач з чыноўнікамі Шклоўскага райвыканкама бачым святара мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царквы, пакуль, праўда, без кадзіла. Можа гэта і ёсць шклоўскі асаблівы шлях у барацьбе з нячысцікамі з "вертыкалі"?! Дапамажы нам Бог, калі няма сумлення ў чыноўнікаў ад прыроды.

***П.Мігурскі***

# Жизнь на свалке

Как вы думаете, что представляет самую серьезную угрозу для человечества в 21 веке? Не военные конфликты, не глобальное потепление и не ухудшение качества жизни (хотя они имеют приоритетное значение). Враг №1 – обыкновенный бытовой мусор! Так считают экологи и они во-многом правы. Проблема в том, что цивилизация производит гораздо больше мусора, чем может уничтожить.

Оглянитесь вокруг: вдоль дорог валяются пакеты с мусором, стеклянные бутылки и жестяные банки из-под пива и энергетиков. Мусором захламлены леса и овраги, настоящие мусорные горы вокруг больших и малых городов, редкая деревня и дачный кооператив без стихийной мусорной свалки. Строительный мусор, старая одежда, бумага, пластиковые пакеты и пэт-бутылки, стекло, старая бытовая техника – лицо современной мусорной свалки. Но, если 50 лет назад бытовые отходы легко разлагались, то современный пластик и тара из-под напитков может перерабатываться почвой столетиями. Современная упаковочная бумага и та разлагается только за 4-5 месяцев, а окуркам от «продвинутых» сигарет гнить 12 лет. Рекордсменами по долговечности естественной утилизации являются контейнеры из-под пищи из пеностирола и стекло – они, практически, вечны. Подсчитано, что 20% всего бытового мусора составляет пластиковая упаковка. Только жители Евросоюза ежегодно используют более 4 млрд. одноразовых пластиковых пакетов (это примерно 800 тыс. тонн), при этом лишь 6% из них подвергается вторичной переработке. И это при том, что всего в странах ЕС перерабатывается около 95% мусора, а затраты на его сортировку и утилизацию составляют миллиарды

евро. В Беларуси ежегодно образуется более 3 млн. тонн мусора, 88% которого просто «хоронят» на спецполигонах. Две трети «белорусского» мусора является бытовыми отходами и с каждым годом этот объем возрастает как минимум на 20%. В большинстве случаев в городах ветошь, бумага, стекло, пищевые отходы сваливаются в один мусорный контейнер. Специалисты говорят, что несортированный мусор теряет свою способность к переработке. А ведь при грамотном сборе и переработке можно извлечь до 40 процентов вторичных ресурсов, не говоря уже об экологических потерях. В тоже время Беларусь импортирует ежегодно вторсырья (стеклобоя и макулатуры) на десятки миллионов долларов.

Завидных успехов в области переработки мусора добились в Японии. Все отходы в этой стране подразделяются на 4 вида: стекло, перерабатываемый, сжигаемый и несжигаемый мусор. При этом каждый вид мусора рациональные японцы выбрасывают в стационарные емкости, установленные местными коммунальниками. За нарушение правил «расфасовки» мусора по емкостям положен немаленький штраф. Все как у нас (кроме штрафов), только там население следует установленным правилам утилизации.

Подсчитано, что решение проблемы утилизации отходов путем раздельного сбора и переработки мусора обходится в 4 раза дешевле, чем строительство новых профильных перерабатывающих заводов.

При работе мусоросжигательного завода в атмосферу выделяется опасный «коктейль» из мышьяка, хрома, никеля, бериллия, кобальта и самого сильного яда – диоксина. Тоже происходит и при сжигании мусорных свалок.

Экологи бьют тревогу - несмотря на то, что современные технологии позволяют перерабатывать до 85% различного мусора, в глобальных масштабах мусорная экологическая опасность разрастается.

Вот что советуют специалисты в области охраны окружающей среды: Раздельный сбор мусора. Стеклотару и макулатуру сдавать в специальные заготовительные ларьки, пэт-бутылки выбрасывать в предназначенные для их сбора контейнеры. Кстати, для изготовления 60 кг бумаги срубается одно большое дерев;Замените полиэтиленовые пакеты матерчатыми сумками, а одноразовые – бумажными; Выбирайте товар в много разово используемой упаковке; Отделяйте твердые бытовые отходы от пищевых; Уменьшите число используемых детских одноразовых подгузников. Всего малыш к 2 годам успевает испачкать 3-5 тысяч подгузников, что равно 3,5 тоннам мусора.

Помните: никто кроме нас не сделает планету чище!

***В.Добрая***

## У Магілёве прайшоў круглы стол па праблемах падсобных гаспадарак



6-га кастрычніка ў Магілёве прайшоў “круглы стол”, прысвечаны праблемам асабістых падсобных гаспадарак. Перад прысутнымі выступіў кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі, які распавёў пра праблемы вядзення асабістых гаспадарак і шляхі іх вырашэння. Ён прааналізаваў эфектыўнасць вядзення гаспадарак буйнымі і фермерскімі сельскагаспадарчымі арганізацыямі, і асабістымі падворкамі сельскіх жыхароў. Нягледзячы на тое, што асабістыя гаспадаркі маюць у два-тры разы лепшыя паказчыкі па некаторых кірунках, яны сутыкаюцца з шэрагам праблемаў юрыдычнага, арганізацыйнага і гаспадарчага кшталту. Таксама выступілі Зінаіда Мілешчанка і Барыс Бухель, якія звярнулі ўвагу на эфектыўнасць асабістых гаспадарак і іх юрыдычныя праблемы. Удзельнікі, сярод якіх былі актывісты грамадзянскай ініцыятывы “Падвор’е”, грамадскія актывісты і праваабаронцы, вызначылі кола праблемаў, вырашэнне якіх магчыма супольнымі высілкамі актывістаў і мясцовых уладаў. Актывісты збіраюцца звярнуцца да ўладаў з шэрагам прапановаў, якія, на іх думку, дазволяць падвысіць эфектыўнасць асабістых падсобных гаспадарак. Мерапрыемства было арганізаванае магілёўскім аддзяленнем ПЦ “Вясна” і прайшло ў грамадскім цэнтры “Кола”.

Штомесяц наша газета будзе інфармаваць чытачоў аб змяненнях у сітуацыі вакол асабістых падсобных гаспадарак Магілёўскай вобласці. Мы запрашаем чытачоў да супрацоўніцтва: прымаем заўвагі аб стане адносін мясцовых улад да асабістых гаспадарак, будзем фіксаваць тыя перашкоды, якія стаяць на шляху эфектыўнага вядзення хатняй гаспадаркі, прымаем каментары чыноўнікаў і службовых асоб. З гэтага нумара адкрываем новую рубрыку “Падворак”, у якой будуць друкавацца адпаведныя матэрыялы. Прызываем да супрацы. ***А.Сцяклоўскі***

# ПАДВОРАК

6 октября 2014 г. в Могилеве прошло заседание круглого стола гражданской инициативы «Подворье». На круглом столе выступили: правозащитник Б.Бухель, обративший внимание на важность соблюдения юридических процедур и руководитель инициативы З.Милещенко, акцентировавшая внимание на возможность более эффективного ведения личных подсобных хозяйств в настоящее время через активизацию населения.

Доклад на тему “Проблемы ведения личных подсобных хозяйств (ЛПХ) и пути их преодоления” сделал аналитик инициативы к.э.н., доцент Мигурский П.С. В докладе проанализирована эффективность ведения хозяйства крупномасштабными сельскохозяйственными организациями, фермерскими хозяйствами и личными подворьями сельских жителей. Занимая 9,5% угодий личные подсобные хозяйства Беларуси произвели в 2013 году 22,1% валовой продукции сельского хозяйства – эффективность производства в личных подсобных хозяйствах выше крупнотоварного производства в 2,4 раза, а фермерских хозяйств – в 2,8 раза выше. Тем не менее, в деятельности личных подсобных хозяйств имеются юридические, организационные, хозяйственные и экологические проблемы часто субъективного характера, которые необходимо преодолевать владельцам хозяйств с помощью активных членов гражданской инициативы.

Активисты гражданской инициативы определили круг проблем, решение которых возможно совместными усилиями гражданской инициативы “Подворье” и местных властей. Решено обратиться к председателю облисполкома с рядом предложений, реализация которых позволит увеличить производство сельскохозяйственной продукции на личных подворьях.

## Зварот

Старшыні Магілёўскага аблвыканкама Рудніку Пятру Міхайлавічу, дэпутатам Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Агееву Аляксандру Віктаравічу, Разганаву Аляксандру Іванавічу, Шамаль Алене Уладзіміраўне

Паважаныя сябры!

Жыццё паказала, што адрываць праблему развіцця асабістых падсобных гаспадарак ад тэмы працы з насельніцтвам улады ўсіх узроўняў нельга. Яны ўзаемна звязаны, ды і жыццё патрабуе забяспячэння пераемнасці ў працы з асабістымі падсобнымі гаспадаркамі, патрабуе ісці далей, зрабіўшы упіранне на якасць і эфектыўнасць іх дзейнасці.

Гаворка пра тое, што з падвышэннем узроўня жыцця і адукацыйнага ўроўню вяскоўцаў роля асабістых гаспадарак будзе зніжацца, не адпавядае рэчаіснасці. Больш таго, такі падыход ўпэўнівае ў тым, што мясцовае кіраўніцтва не заўсёды мае канструктыўнае бачанне перспектывы развіцця грамадства і эканомікі, бо эфектыўнасць функцыявання асабістых гаспадарак у Магілёўскай вобласці ў 3,3 разы вышэй, чым буйнатаварных гаспадарак, а ў раслінаводстве гэты паказчык яшчэ большы – у 6,3 разы. Ці не тая самая кропка эканамічнага росту ў сельскай гаспадарцы вобласці? Па выніках працы 2013 г. асабістыя падсобныя гаспадаркі вобласці, маючы ў сваім распараджэнні толькі 8,2% ад усёй плошчы сельскагаспадарчых зямель, выпрацавалі 23,1% абласной сельскагаспадарчай прадукцыі, а прадукцыі раслінаводства – 36,1%.

Ілюзія эфектыўнасці буйнатаварных сельскагаспадарчых арганізацый у мінулыя часы стварылась якраз на фоне высокіх паказчыкаў, атрыманых за лік асабістых гаспадарак. Але як толькі рэалізацыя прадукцыі з падворкаў знізілась да мяжы ў 30% у таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі краіны, пачаліcь эканамічныя праблемы ў цэлым у галіне.

Для стварэння ўмоў для эфектыўнага вядзення асабістай гаспадаркі, супрацоўніцтва з мясцовымі ўладамі ў гэтым напрамку, а, калі трэба, і барацьбы з асобнымі праяўленнямі фанабэрыі і абыякавасці мясцовых чыноўнікаў у адносінах да элементарных просьб і запытаў уладальнікаў асабістых гаспадарак, 27 верасня 2014 года ў Магілёўскай вобласці створана грамадская ініцыятыва “Падворак”. 6 кастрычніка на кольным стале, на які былі запрошаны ўладальнікі асабістых гаспадарак і фермеры, быў прааналізаваны стан функцыявання асабістых гаспадарак, выпрацаваны падыходы па іх развіццю. але ж былі выяўлены і праблемы, якія тармозяць пашырэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі - паўсямесна адсутнасць належнага ветэрынарнага абслугоўваньня жывёлы асабістых гаспадарак, слабая сыстэма закупак

сельгаспрадукцыі, адсутнасць у гандлі камбікорма для хатняй жывёлы, вельмі дрэнная арганізацыя працэсу забою жывёлы, асабліва ў Магілёўскім і Шклоўскім раёнах, і другія.

Мы прапануем:

-звярнуць увагу на стан вядзення асабістых гаспадарак у вобласці;

-распрацаваць рэальную сістэму мер па павышэнню эфектыўнасці вядзення асабістых гаспадарак па раёнах шляхам стварэння дзейснай нарматыўна-заканадаўчай базы мясцовага самакіравання;

-зменьшыць адміністрацыйныя бар'еры ў справах вытворчасці і продажу прадукцыі з падворкаў.

Грамадская ініцыятыва гатова супрацоўнічаць з мясцовымі ўладамі Магілёўскай вобласці ўсіх узроўняў з мэтай актывізацыі вытворчых магчымасцяў падворкаў.

***З павагай, кіраўнік грамадскай ініцыятывы З.Мілешчанка***

О проблемах ЛПХ на местах говорят факты: в Круглом имеются проблемы с обеспечением скота подворий выпасом. Сегодня такой проблемы просто быть не должно ввиду резкого снижения поголовья скота в ЛПХ.

Могилевским райпо прекращена закупка яблок на территории района - план выполнен.В тоже время на одном из подворий в Голынце (на фото) мы насчитали 22 мешка яблок, готовых к реализации. Увы, они просто пропали.



# Старасельскі касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Касцёл у мястэчку Стараселле ўзнік яшчэ ў 18 стагоддзі. Будынак быў вырашаны ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства пад уплывам стылю барока. Уяўляў сабой магутны, выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольны зруб, што пераходзіў у вузейшую 5-гранную апсіду, 2-схільны гонтавы дах над якой пераходзіў у вальмавы і быў завершаны чацверыковай купальнай сігнатуркай. Сілует галоўнага фасада фарміравалі дзве чацверыковыя вежы з фігурнымі барочнымі купаламі. На фоне вертыкальнай шалёўкі вылучаліся высокія прамавугольныя аконныя праёмы. Справа перад касцёлам стаяла 2-ярусная чацверыковая шатровая званіца з адкрытым верхнім каркасным ярусам. Таксама крыніцы паведамляюць, што ў 1839 годзе намаганнямі і на сродкі пралата ксендза Станкоўскага ў Стараселлі пабудаваны ўжо мураваны касцёл Найсвяцейшай Тройцы. Храм мае невялікі купал з жалезным крыжам, на другім канцы крыж жалезны вышынёй два аршына. Памеры касцёла: даўжыня – 13, шырыня – 7 сажняў. У 1875-1877 гадах адрамантаваны, устаноўлены жалезныя водасцёкі. Званіца драўляная, накрытая гонтай, у ёй 4 званы: адзін вялікі і тры малыя. Апякун касцёла – Святы Станіслаў.

Галоўны алтар, з абразом Божай Маці ў сярэбранай рызе. Рэліквіяў вызалачаных з мошчамі святых – 4. Другі алтар, з абразом Святога Антона. Трэці алтар, з абразом Сэрца Збаўцы. Пантыфікат з часткай Святога Крыжа і мошчамі святых. Стацый Крыжовай Дарогі Ісуса Хрыста – 14. У храме тры жырандролі і арган на 8 галасоў.

Плябанія з сасновага лесу, даўжыня – 7, шырыня – 4 сажняў, падвал, канюшня, вазоўня, хлеў для жывёлы, пуня, свіран. Таксама дом для касцёльнай прыслугі, дом для арганіста, крыты саломай. У парафіі знаходзяцца капліцы ў вёсках Дымава, Рацаў, Рэчкі.

Стараселле ў рукапісных крыніцах вядома з 1557 года. У 1561 годзе – мястэчка, цэнтр маёнтка, належыла Сапегам. У 1656 годзе Казімір Сапега, перадаў мястэчка сваёй пляменніцы Нерушэвіч, ад якой яно перайшло да пратэстантаў. Падчас вайны 1654 – 1667 гадоў Стараселле разбурана маскоўскімі войскамі.

У пачатку XX стагоддзя Стараселле наведаў Люцыян Хвецька, святар, адзін з пачынальнікаў беларускага каталіцкага руху, друкаваўся пад псеўданімам Л. Малышэвіч. Вось як у сваіх дарожных нататках Люцыян Хвецька апісвае мястэчка Стараселле: *"Кончыўся лес і адкрыўся прыгожы від. Ад дарогі пайшоў дол, а за поўвярсту ўздымаўся ўзгорак, а на ўзгорку красаваўся касцёл, званы каторага чуваць былі, зазывалі на вячэрнію малітву… Бачыў я ў Стараселлі шмат наехаўшых на фэст беларусаў. Як глянуў на народ каля касцёла, дык здалося мне, што з гораду столькі шмат панаехала: дзяўчаты ў капелюшах і модных строях, хлопцы ўсе ў крамным адзеты, толькі дзе-нідзе відаць сірмага ці хустка… Зацікавіўся я іхняй гаворкаю, прайшоўся раз-другі паміж імі, пачуў чыстую беларускую і трошкі польскую".*

Згадваецца ў нататках і старасельскі ксяндз Юзаф Вярыга, пазнаёміўшыся з якім аўтар "надта цешыўся", бо такіх як Вярыга "пашукаць ксядзоў". Далей, характарызуецца мясцовы святар, наступнымі славамі: *"Трэба сказаць казанне па-беларуску ў Шклове – скажыць ксёндз Верыга;*

*трэба сказаць у Хвашчаўцы – скажыць усё ён; трэба ў сваёй парафіі – скажыць ён; дык так, што ўсякі яго зразумеець. Зато надта любяць людзі за яго зразумелыя казанні "папросту"*. Пра Вярыгу вядома, што ён нарадзіўся ў 1866 годзе. Скончыў семінарыю ў Санкт-Пецярбургу. У 1891 годзе прыняў сакрамэнт Святарства. Працаваў вікарыем на тэрыторыі Расіі – у парафіях Твер, Табольск і Омск.


Proboszcz kościoła starosielskiego ksiądz Józef Weryho.

У Стараселлі быў адміністратарам з 1906 года, а з 1923 года выконваў абавязкі аршанскага дэканата. Пазней працаваў у парафіях Віцебск і Веліж. Але ў хуткасці запрацавала жудаснае кола ваяўнічага атэізму. Юзаф Вярыга быў арыштаваны ДПУ у 1933 годзе і растраляны. Будынак касцёла знішчылі яшчэ ў 1939 годзе.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Стараселлі

Пачатая татальная барацьба з рэлігіяй парушыла векавыя ўстоі, якія фарміраваліся і шанаваліся нашымі продкамі шмат стагоддзяў. Каталіцкая парафія ў сучасным Стараселлі так і неадрадзілася. Наведаўшы каталіцкія могілкі на ўскрайку гэтай вёскі, можна пабачыць адсутнасць павагі да мінуўшчыны, абыякавасць мясцовых улад і насельніцтва да сваіх продкаў. Могілкі не агароджаны, зараслі дрэвамі і хмызняком. Шмат паваленых надмагільных помнікаў і крыжоў. І самае ганебнае тое, што ў некалькіх месцах бачны сляды гвалту над магіламі, асобныя з іх разрабаваны з мэтай пошуку каштоўнасцяў. У той жа час на ацалелых помніках можна прачытаць прозвішчы пахаваных людзей, а на асобных, і род іх заняткаў. Гэта Ян Асіпоўскі, які памёр у 1883 годзе ва ўзросце 65 гадоў, яго жонка Тэрэза. У траўні 1888 года пахаваны Антоній Кундзевецкі, студэнт інжынерна-грамадзянскага інстытута, афіцэр Люблінскага палка. Побач у 1826 годзе быў пахаваны яго дзед, таксама Антоній Кундзевецкі. Непадалёк разбураная магіла Ганны Здраенскай-Мерло, якая адышла ў іншы свет у 24 гады. Сярод пахаванняў захавалася паўразбураная, некалі вельмі прыгожая цагляная каплічка.

Сёння вёска Стараселле аднаўляецца: пабудаваны Дом культуры, лячэбная ўстанова, новы магазін, адрамантавана школа. Будуюцца жылыя дамы, ствараюцца новыя вытворчасці. Вельмі хочацца спадзявацца, што не толькі матэрыяльнае, але і духоўнае аднаўленне прыйдзе ў гэту вёску і былое мястэчка адрадзіцца ў тым ліку і праз годныя адносіны да сваёй гісторыі.

***А.Грудзіна, П.Мігурскі***

# Евразийский банк развития (ЕАБР) прогнозирует, что в Беларуси к концу 2014 года потребительские цены вырастут на 25%.

Эксперты ЕАБР отмечают, что месячный темп роста цен в республике в июле остался на уровне, близком к прошлогоднему, однако в августе инфляция превысила прошлогодние показатели. "Несмотря на это, Национальный банк Беларуси продолжил ослабление денежной политики, дважды за этот период снизив ставку рефинансирования. Она составила 20%, опустившись ниже текущего уровня инфляции (20,6% по итогам августа). Под влиянием этой политики рост количества денег в экономике начал ускоряться. Так, годовой показатель роста М2 (денежная масса в национальном определении) достиг 18,9% по итогам июля, оказавшись заметно выше зафиксированного в мае минимума на уровне 9,1%. При этом эксперты ЕАБР обратили внимание, что по итогам июня средняя располагаемая зарплата в стране продемонстрировала отрицательный годовой рост (снижение на 0.2%) в реальном выражении, впервые с марта 2012 года. Как сообщалось, за сентябрь 2014 года инфляция в республике составила 1,2%, с начала года потребительские цены на товары и услуги выросли на 13,4%. http://www.belaruspartisan.org/economic/283315/

Рэдактар І.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 04.11.2014